



Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

21 верасня 2001 года

№ 38 (335)
Выходзіць па пятніцах





## Навіны рэгіёна

### Завод атрымае грошы

**СМАРГОНЬ.** Трактарны завод па-ранейшым застаецца без дырэктара. У аўторак у горад прыязджалі старшыня аблвыканкома **Уладзімір Саўчанка**, былы старшыня Смаргонскага райвыканкома **Мікалай Кавалёў** і генеральны дырэктар МТЗ **Міхаіл Лявонаў**. Яны абмяркоўвалі сітуацыю.

Вырашана дапамагчы заводу з абаротнымі сродкамі. Грошы мусяць паступіць ад аблвыканкома і Мінскага трактарнага завода.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

### Радзіма гімнаў міліцыі і мытні

**АШМЯНЫ.** Калектыў мастацкай самадзейнасці Ашмянскай мытні ў рэспубліканскім конкурсе заняў першае месца. Песню кампазітара з Астраўца **Аляксандра Альховіка** "Гімн беларускай мытні" прызналі лепшай. Не выключана, што ў перспектыве яна і стане гімнам беларускіх мытнікаў. Раней Аляксандр Альховік напісаў гімн для міліцыі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Выстаўка "рухомых" камянёў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Тыдзень у Цэнтральнай бібліятэцы праходзіла выстаўка "Святло каменя". Як звычайна, можна было і набыць для сябе тое, шо найбольш спадабалася.

Загадчыца аддзела маркетынгу ЦГБ **Ларыса Сысун** гаворыць, што ў выніку бібліятэка атрымала дадатковыя сродкі. Прыкладам, у маі было сабрана 500 тысяч рублёў, атрыманых за продаж уваходных білетаў. Гэта дазволіла набыць крэслы ў дзіцячую чытальную залу, гаршчкі для кветак. Цяпер даход склаў каля 400 тысяч рублёў.

Калі ў час майскага візіту гандляроў у Маладзечна нічога таямніча не знікала са сталоў, то на гэты раз пасля 3–4 дзён пачалі "рухацца" ў невядомым напрамку камяні, шкляныя фігуркі, упрыгожванні. Дакладныя страты невядомыя, але выстаўка адбудзецца яшчэ і ў першай палове снежня.

**Таццяна СЕМАШКЕВІЧ.**

### Новае сумеснае прадпрыемства

**СМАРГОНЬ.** Ліцейна-механічныя заводы Смаргоні і Кастрамы арганізавалі сумеснае расійска-беларускае прадпрыемства. Мяркуецца, што гэта дазволіць смаргонцам выйсці на больш шыя магутнасці. Тое, чаго не было ў апошні час – кокс, цэгла, чыгун – будуць пастаўляць расіяне.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

### Падвядзенне вынікаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** У панядзелак адбылося выязное пасяджэнне аблвыканкома. У ім узялі ўдзел каля 180 чалавек, якія прыехалі на 5 аўтобусах і больш як на 10 іншамарках. Праводзіў пасяджэнне старшыня Мінаблвыканкома **Мікалай Дамашкевіч**.

Як расказаў першы намеснік старшыні райвыканкома **Міхаіл Прыбалавец**, начальнікі ўпраўленняў сельскай гаспадаркі, намеснікі па жывёлагадоўлі абмеркавалі праграмы па малацэ і збожжы, высветлілі абставіны невыканання планаў у асобных раёнах. Удзельнікі пасяджэння наведалі 4 калгасы. М. Дамашкевіч быў задаволены вынікамі іх работы і зазначыў, што Маладзечаншчына працуе.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Міліцыя без грыбоў не будзе

**МЯДЗЕЛ.** У санаторыі Міністэрства ўнутраных спраў «Белая Русь» каля пяці год дзейнічае грыбаварня. Адпачывальнікі могуць назапасіць дары лясоў на зіму.

З'явіліся ўжо і пастаянны кліенты, якія выбіраюць час адпачынку ў грыбны сезон. Штодня ходзяць у лес і вывучылі яго лепш за мясцовых жыхароў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 22 верасня

**Мінск**
7 – 8°С (уначы)
16 – 17°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
17°С (удзень)



Нядзеля, 23 верасня

**Мінск**
7 – 9°С (уначы)
14 – 16°С (удзень)



**Вільня**
8°С (уначы)
14°С (удзень)



# Кулікова поле беларусаў



Фота IREX/ProMedia.

**Бульбянае поле стала для беларусаў месцам выпрабаванняў. І адначасова – сродкам выжывання.**

Чарговы сезон збору ўраджаю завітаў на вёску. Цяпер змагаюцца за вынікі веснавых намаганняў пераважна старэнькія, што дзеляць адзіноту са сваімі сядзібамі. Добра, калі "клапатлівыя" унукі на гадзіну-другую кінуць цывілізацыю і высаджваюцца ў баразну.

Разараць – ці не асноўная праблема для старэнькіх пры выбіранні бульбы. Гэтая паслуга карыстаецца найбольшым попытам. Каб "знайсці каня", бывае, трэба пабегаць па вёсцы. Пара разараных радоў плошчай у сотку каштуе гэтай восенню каля тысячы.

Прывезці воз гною абыдзецца ў 2000 рублёў. Столькі ж каштуе дзень адпасвіць карову. Зрэшты, ці не ўсе гараджане гэты вясковы прэйскурант завучылі напамяць. Усе мы – "дачнікі".

Але звычайны рубель сёння на вёсцы не каціруецца. Дабрадзеі часцей бяруць "вогненнай вадой". Стаўкі па раёнах істотна не адрозніваюцца. Усё залежыць, хутчэй, ад патрэбнасцяў. Адзін здаволіцца чаркай, другому падавай бутэльку, а трэці потым будзе год хадзіць да бабулькі "галаву лячыць".

Так сталася, што вёскі трывала ператварыліся ў прыстанішча для людзей у гадах ды тых, хто ўжо страціў надзею на лепшае і перабіваецца выпадковымі заробткамі ці дробнымі крадзяжамі. У перапынках адводзіць душу чаркай-другой. Чалавек, які імкнецца да нармальнай работы і жыцця, едзе ў горад. Адзінокія хацінкі, што пакаціліся ад часу, сёння амаль нікому не патрэбныя. Вось і даводзіцца старэнькаму круціцца ва ўмовах такога "рынку", нарыхтоўваць імправізаваны бар у магазіне.

Спрытнейшыя займаюцца нарыхтоўкамі ў лесе. Для многіх сем'яў гэта стала асноўным заняткам. Сродкі не выбіраюць: радыеактыўныя грыбы ды ягады, дохлая (глушаная, бітая электравудачкамі) рыба і г. д.

Калі мы гаворым, што грамадства сპіваецца, то вёска сябе цвярозай ужо не ўяўляе. Яшчэ год колькі таму чуліся асобныя галасы супраць таго, што літр малака каштуе меней за адпаведную колькасць бензіну. Цяпер прывыклі. А кожная пасяўная ды ўборачная становіцца ў адзін рад са Сталінградскай бітвай. Бульбянае поле можна параўноўваць з Барадзінскім ці Куліковым.

**Вольга КАСЯКОВА.**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Што хочаце сказаць пасля выбараў прэзідэнта?



**Ірына Каспяровіч, прадавец:**
– Нічога не змянілася. На маю работу выбары не паўплывалі. Як працавала, так і працую.



**Алег Банцыраў, мастак:**
– У мяне слова ў няма.



**Вячаслаў Тамашэвіч, фатограф:**
– Хачу людзям грошай пажадаць, бо вакол галеча. Здароўя і работы, інакш не выжыць. У лепшае цяжка верыцца, але ж спадзявацца заўсёды трэба.



**Вольга Касякова, студэнтка:**
– Расстаноўка сіл на палітычнай арэне, у цэлым, мяне задавальняе. Выбары – адзін з аспектаў легітымізацыі ўлады. 9 верасня насельніцтва паказала высокую актыўнасць, значыць, праявіла пэўную ступень палітычнай культуры. Таму з яго рашэннем нельга не лічыцца.



**Сяргей Шчансновіч, суддзя міжнароднай катэгорыі па барацьбе:**
– Народ тут не вінаваты. Хаця можна было і пазмагацца за сваю будучыню. А так чарговыя 5 год пройдуць у марным чаканні лепшага.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Мікалай ХАДАСЕВІЧ і Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Суп з бурштыну

**АСТРАВЕЦ. У пункце пропуску "Гудагай-1" пагранічны нарад знайшоў у пасудзіне для прыгатавання ежы ў вагоне-рэстаране вырабы з бурштыну.**

Каму яны належалі, высвятліць не ўдалося, і каштоўнасці былі канфіскаваныя ў даход дзяржавы. Па папярэдніх падліках, канфіскат з цягніка "Калінінград-Масква" пацягнуў амаль на 2 мільёны рублёў. Нішто сабе супчык гатавалі ў рэстаране.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Разбойны напад ля «Гелены»

**МАЛАДЗЕЧНА. У свой час вялікі рэзананс у горадзе меў разбойны напад на двух мужчын, якія адпачывалі ў той вечар у бары "Гелена".**

Пры расследаванні крымінальнай справы следства двойчы заходзіла ў тупік, таму што не магло ўстанавіць асоб, што здзейснілі гэтае злачынства. І невядома, як бы павярнулася справа, каб адзін са сведкаў не паведаміў міліцыі падрабязную карціну таго, што адбылося.

Пяцёра маладых хлопцаў гулялі ў той вечар у "Гелене" за адным столікам. Да іх трапіла інфармацыя пра тое, што ў аднаго мужчыны ў бары ёсць 260 долараў ЗША. Пасля закрыцця ўстановы двое хлопцаў з гэтай кампаніі – Масленікаў і Шпакоўскі – напалі на гэтага мужчыну і яго знаёмага каля напаўразбуранага будынка інтэрната па вуліцы Ясінскага. Збілі абодвух з ног. Мужчына, у якога хацелі забраць грошы, страціў прытомнасць. Яны пацягнулі яго ў паўразвалены будынак. Там злачынцы працягвалі яго збіваць, пасля чаго сарвалі куртку. Але такіх грошай у мужчыны, як высветлілася пазней, не аказалася.

Масленікаў і Шпакоўскі сваю віну ў здзейсненым злачынстве не прызналі. Яны сцвярджалі, што гэтае злачынства здзейснілі іншыя хлопцы, якія знаходзіліся ў той вечар у іх кампаніі. Аднак суд у працэсе разгляду гэтай крымінальнай справы прызнаў Масленікава і Шпакоўскага вінаватымі ў хуліганстве і разбоі і назначыў кожнаму пакаранне ў выглядзе шасці год пазбаўлення свабоды ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Злачынцаў пад стражу ўзялі проста ў зале суда.

Крымінальная калегія Мінскага абласнога суда пакінула гэты прыгавор без змянення.

**Дмітрый СІНЯЎСКІ,**
**памочнік старшыні суда г. Маладзечна.**

## Жанчыны не мяняюцца

**СМАРГОНЬ. Незвычайны занятак выбрала для сябе 28-гадовая смаргонка.**

Уначы з двара па вуліцы Кірава яна скрала матацыкл "ММВЗ", які належаў звршчыку аднаго з прадпрыемстваў горада. Колькі год таму яно мела канфлікт з законам, але, напэўна, высноў не зрабіла. Праз гады жанчыны не мяняюцца.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Палова парушальнікаў на сумленні астравецкіх пагранічнікаў

**АСТРАВЕЦ. Падчас нядаўна праведзеных вучэнняў "Нёман-2001" затрымана 50 парушальнікаў мяжы.**

Вызначыліся астравецкія пагранічнічнікі. За час вучэнняў на іх "сумленні" 18 парушальнікаў. Амаль палова ад усёй колькасці.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Партызанскі рух жыве

**МАЛАДЗЕЧНА. У першыя дні верасня чыгуначныя пуці робяцца папулярным месцам адпачынку непаўналетніх, асабліва ў жылых масівах Маладзечна, Вілейкі, Смаргоні і іншых населеных пунктаў, што прылягаюць да аб'ектаў чыгуначнага транспарту.**

Па-ранейшым, любімымі занняткамі застаюцца накладанне пабочных прадметаў на рэйкі, закідванне цягнікоў, якія ідуць міма, камянямі.

Улетку найбольш крыміна-геннымі былі прыпыначныя пункты Селівонаўка, Крыніца, Татаршчызна, размешчаныя на ўчастку Маладзечна-Мінск.

4 вучні СШ №8 прыехалі на прыпыначны пункт Татаршчызна парыбаліць і проста на прыпыначным пункце накідалі на рэйкі камення, галля і іншага смецця. Пры праходжанні цягніка закідалі яго камянямі. У выніку разам з бацькамі адправіліся на пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх пры Маладзечанскім гарвыканкоме.

23 жніўня на ўчастку Залессе-Смаргонь цягнік Мінск-Вільнюс смяротна траўміраваў двух чалавек. Адным з іх аказаўся 16-гадовы падлетак са Смаргоні, які адпачываў у прафілакторыі ў вёсцы Залессе. Абодва сядзелі на чыгуначных пуцях і не паспелі сысці з палатна, нягледзячы на папераджальныя сігналы, што падаваў машыніст.

Чыгуначныя аб'екты прыцягальныя для гульняў падлеткаў. Аднак парушэнне элементарных правілаў бяспекі прыводзіць тут да трагічных наступстваў. Не дарэмна заканадаўствам прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць за парушэнне правілаў карыстання чыгуначным транспартам, у тым ліку, і за звыклы для многіх праход па чыгуначных пуцях у неўстаноўленых месцах.

**Вадзім КУЛЯШЭЎСКІ,**
**начальнік ІСН Маладзечанскага АУСТ.**

## Аб'яўлены другі конкурс імя Ежы Гедройца

На яго прымаюцца артыкулы, тэле- і радыёперадачы, якія выйшлі ў 2001 годзе і прысвечаныя польска-беларускім узаемаадносінам у галіне культуры, навукі і літаратуры. Умовай для ўдзелу з'яўляецца прадастаўленне да 15 снежня 2001 года ў Польскі Інстытут у Мінску арыгіналаў або копій апублікаваных артыкулаў, гука- або відэазапісаў перадачы з адзнакай аб даце трансляцыі, публікацыі, а таксама з указаннем кантактнага нумара тэлефона аўтара.

Цырымонія ўзнагароджання пераможцаў конкурсу і ўручэнне ўзнагарод адбудзецца ў канцы студзеня 2002 года.

**Польскі інстытут у Мінску (вул. Валадарскага, 6, 220050, Мінск, Беларусь. Тэл. (017) 2209581, 2206378, факс 2204874)**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

## Чытаем «РГ»

Вы любіце сустракацца па пятніцах з нашай газетай? Зрабіце гэтыя сустрэчы рэгулярнымі – падпішыцеся на "Рэгіянальную" ў любым паштовым аддзяленні. Мы ж абяцаем вам і ў далейшым заставацца вернымі праўдзе. Незалежны погляд на жыццё нашага краю, цікавыя публікацыі па гісторыі, эканоміцы, спорце, займальныя забаўкі і крыжаванкі, каляровая праграма тэлебачання – усё гэта вы знойдзеце, калі разгорнеце "Рэгіянальную газету".

Вас чакаюць знаёмыя і новыя рубрыкі і аўтары.

Да сустрэчы ў наступную пятніцу.

**Рэдакцыя «РГ».**

**Індывідуальная падпіска** *індэкс 63212*
**1 мес.** – 785 руб.
**3 мес.** – 2355 руб.

**Ведамасная падпіска (з улікам ПДВ)** *індэкс 63369*
**1 мес.** – 3328 руб.
**3 мес.** – 9984 руб.

■ ШКОЛА

# Як адвучыць школьніка спісваць

**МАЛАДЗЕЧНА. Міністэрства адукацыі прапануе мноства навучальных методык, але не кожная з іх мае станоўчыя вынікі. Развіццёвае навучанне прафесара Леаніда Занкова дае не толькі 75% выдатнай паспяховасці, але і знаходзіць лепшае ў дзіцяці.**

Адрозненне гэтай методыкі ад традыцыйных схем:

– Ёй падпарадкаваныя ўсе прадметы.

– У аснове адзін з прынцыпаў – варыянтнасць.

– Сістэма не патрабуе падбору вучняў (3 узроўні).

– Кардынальна змяняецца паняцце "настаўнік". Настаўнік – гэта дарослы чалавек, які дапамагае здабываць веды. Ён не мае права крычаць на дзіця і абражаць яго.

– Настаўнік павінен заваяваць аўтарытэт у вучня, прывабіць не строгасцю, а цікавым выкладаннем.

– У працэсе лагічных меркаванняў вучань самастойна прыходзіць да засваення новага матэрыялу, а настаўнік накіроўвае яго.

Сістэма поўнасцю апраўдвае сваю мэту: "Усебаковае развіццё асобы дзіцяці". Сам Занкоў казаў: "Максімальнае развіццё закладзенага прыродай у чалавека".

Дзеці не баяцца настаўніка. Яны смела гавораць тое, што думаюць і адстойваюць свой пункт погляду. Сістэма развівае пачуццё калектывізму, а затым і сяброўства, заснаванага на падтрымцы і дапамозе. Вучні ніколі не спісваюць, таму што кантрольная – гэта вынік іх працы. Яны самастойна здабываюць веды, а развітая логіка дае магчымасць не панікаваць перад нестандартнай задачай.

Настаўнікі з традыцыйнай методыкай навучання да сістэмы Занкова не прывыкаюць, таму што ім цяжка пазбавіцца ад пачуцця перавагі над вучнямі. А пытанне вучня: "Чаму вы на мяне крычыце?" – уводзіць іх у лёгкі шок.

У краіне па гэтай сістэме працуе ўсяго 130 класаў, 5 з якіх у Маладзечанскім раёне: у Чысці выкладаюць **Вольга Бальшавых, Клаўдзія Барысік** і **Святлана Сакалоўская**, у Радашковічах – **Зоя Тыліндус**, у Гарадзілаве – **Алена Шалкоўская**. Яны не пабаяліся пераламаць сябе і не шкадуюць, што 6 год выкладаюць па гэтай сістэме:

– Таленавітых дзяцей шмат, толькі патрэбна развіць гэты талент, што і робіць сістэма, падкрэсліваючы неардынарнасць дзіцяці, – гаворыць настаўніца пачатковых класаў Вольга Бальшавых.

Клаўдзія Барысік лічыць нармальным, калі настаўнік не можа адказаць на пытанне вучня:

– Лепш я пашукаю правільны адказ, чым падману дзіця.

Назіраючы, як працуюць "занкоўцы", з поўнай аддачай і бляскам у вачах, я зразумела словы Вольгі Бальшавых: "Настаўнік – гэта стыль жыцця. Гэта прызванне".

"Занкоўцы" сутыкаюцца з многімі цяжкасцямі, галоўная – падручнікі. Іх даводзіцца купляць у Расіі на грошы бацькоў, а гэта 10–15 долараў на дзіця. Адміністрацыя школы і раённы аддзел адукацыі цалкам падтрымліваюць настаўнікаў, але грошай ад міністэрства не атрымліваюць.

У Расіі ўжо распрацоўваюць сістэму на дарослыя класы, а ў нас – цішыня. Таму з 5-га класа, калі даводзіцца вяртацца да традыцыйнай сістэмы, дзеці не адчуваюць падтрымкі настаўніка.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Урок па сістэме развіццёвага навучання ў 2«А» класе маладзечанскай СШ №6. Катэгарычнае «Я не згодны!»**

■ ІМЯНІНЫ

**21 верасня**
**Праваслаўныя**: Раство Маці Божай.
**Каталіцкія**: Гіпаліта, Матэвуша, Мацея.

**22 верасня**
**Праваслаўныя**: Ганны, Акіма, Мікіты, Феафана, Фядоса, Харытона.
**Каталіцкія**: Маўрыца, Тамаша.

**23 верасня**
**Праваслаўныя**: Андрэя, Паўла, Пятра.
**Каталіцкія**: Тэклі, Багуслава.

**24 верасня**
**Праваслаўныя**: Фядоры, Дзмітрыя, Сяргея.
**Каталіцкія**: Герарда, Тэадора.

**25 верасня**
**Праваслаўныя**: Сямёна, Фёдара, Юльяна.
**Каталіцкія**: Амеліі, Аўрэліі, Святаполка, Уладзіслава.

**26 верасня**
**Праваслаўныя**: Валяр'яна, Ілы, Карнелія, Лук'яна, Лявонція, Пятра, Юльяна.
**Каталіцкія**: Люцыі, Юстыны, Дамяна, Цыпрыяна.

**27 верасня**
**Праваслаўныя**: Узвіжанне.
**Каталіцкія**: Вінцэнта, Дамяна.

■ ДНІ

24 – **360 год з дня нараджэння Станіслава Незабітоўскага** (1641–1717), беларускага мемуарыста.

27 – **Сусветны дзень турызму.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, верасень**

21 – 23 **"Эмануэль-2"**, Францыя, эротыка (акрамя асоб да 18 год) 21-20
**"Чаго хочуць жанчыны?"**, ЗША, камедыя, 2 серыі 15-00, 17-20, 19-20

24 – 30 **"Тыгр, які крадзецца, дракон, што затаіўся"**, ЗША-Тайвань, баявік, прэм'ера 15-00, 17-10, 19-10
**"Гуд бай, Эмануэль"**, Францыя, эротыка (акрамя асоб да 18 год) 21-10

**Для дзяцей**

23 – **"Гулівер у краіне веліканаў"**, (мультыпл.) 13-00

■ НАШЫ ГРОШЫ

## Франк мацнее

Як мы і меркавалі, абвалу долара не адбылося: занадта вялікая залежнасць сусветнай эканомікі ад ЗША. Цэнтральныя банкі шэрагу краін Еўропы і банк Японіі падтрымалі долар, павялічыўшы прапанову грошай на ўнутраных рынках на 100 мільярдаў долараў.

Наступствам перапынку ў рабоце фондавай біржы ў Нью-Ёрку сталі толькі затрымкі плацяжоў у доларах. Крыху падрасла еўрапейская валюта – амаль да 0,92 долара за 1 еўра. Цікавым фактам аказалася ўмацаванне швейцарскага франка ў адносінах да долара – традыцыйна швейцарскі франк лічыцца выратавальнай валютай ва ўмовах сусветных катаклізмаў.

Прагнозы далейшага развіцця сітуацыі на фінансавым рынку пры ўмове зніжэння спажывецкага попыту ў ЗША даволі песімістычныя, інвестары пераводзяць свае сродкі з долараў у еўрапейскія валюты і цэны. Аднак назіраецца павышаны попыт на швейцарскія маркі. У той жа час, пачатак амерыканскага адказу тэрарыстам узмацніць патрыятычныя настроі ў ЗША і іншых краінах буржуазіі, што згуртаваліся вакол долара.

У нас жа зменшацца даходы турыстычнага бізнесу, недаатрымаюць прыбыткі авіякампаніі і іншыя транспартнікі, узрастуць выдаткі і цэны амаль на ўсё ў сувязі з непазбежным у крызісныя перыяды ростам кошту нафты.

Беларуская эканоміка не задзейнічаная цесна міжнародным раздзяленнем працы ў свеце, не можа таму пацярпець наша фінансавая сістэма. Асноўная праблема – магчымы рост цэнаў на нафту. Што пагоршыць сальда гандлёвага балансу і прывядзе да падзення рубля.

Цяпер пра перспектыву нашай валюты да канца года.

Нацбанк падтрымае рубель, а ў сітуацыі аслаблення курсу долара на сусветным рынку гэта будзе зрабіць прасцей. Палітыка Нацбанка будзе ўсё больш жорсткай, балазе асноўныя папулісцкія выкіданні грошай на сельскую гаспадарку і перадвыбарныя лозунгі засталіся адзаду.

Падаражэе і нашае жыццё, тарыфы на электраэнергію для насельніцтва будуць павялічаныя ўдвая, транспартныя паслугі будуць даражэйшыя ў 1,5 раза, газ, бензін таксама падаражэюць. Спадзявацца на рост «мінімалкі» (па прагнозных ацэнках, з 1 лістапада яна будзе ўстаноўленая ў памеры 10000 рублёў супраць цяперашніх 7500) небяспечна – даходы яшчэ трэба зарабіць. Хутчэй за ўсё, курс рубля ўстаіць у рамках адведзенага калідора – 1600-1700 рублёў за долар да 1.01.2001 года.

З 21 верасня Нацбанкам стаўка рэфінансавання будзе зніжаная да 48% супраць 50% сёння. Само зніжэнне на 2% падаецца неістотным, аднак гэта сігнал на далейшае зніжэнне працэнтных ставак па ўкладах. Іх падзенне да 50–55% пры гадавой інфляцыі на ўзроўні 60–70% станецца тормазам для прытоку рублёвых укладаў. Выбар паміж надзейнасцю ўкладання грошай і атрымліваемай даходнасцю, натуральна, павінен быць зроблены на карысць першай. Што яшчэ больш знізіць памер гарантаванага даходу.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# Рынак хацелі закрыць

**МАЛАДЗЕЧНА. Цяперашні дырэктар рынку райспажыўсаюза Аляксей Увараў прызначаны на пасаду ў 1997 годзе. Тады харчовы рынак быў, фактычна, пад пагрозай закрыцця.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Дырэктар рынку маладзечанскага райспажыўсаюза Аляксей Увараў.**

– Калі я прыйшоў працаваць, сітуацыя была жахлівая. Першыя паўгода маёй работы я чуў толькі адно пытанне: "Калі вас ужо закрыюць?". Прыгадайце, які рынак быў 4 гады таму і які ён цяпер. Высновы мне рабіць не трэба.

**– Тым не менш, праблем у вас багата і цяпер.**

– Галоўная, натуральна, фінансавая. Сродкаў увесь час нестае, а ўкладанні грашовыя вялікія. Акупальнасць будзе, вядома, але на гэта патрэбны час. У бліжэйшым будучым, нарэшце, будзе генеральна рэканструяваная прыбіральня. Хочам, каб было не толькі акуратна, але і прыгожа. А пакуль будзе працаваць часовая.

**– За свае месцы плацяць усе гандляры?**

– Усе, хто пачаў гандляваць, абілечваюцца. Іншае пытанне, што некаторыя ўхіляюцца ад аплаты. Пры набліжэнні кантралёра мяняюць месца дыслакацыі". Каб спыніць такія парушэнні, трэба кожную хвіліну кантраляваць, практычна, кожны квадратны метр. Наш штаб работнікаў невялікі, і такое мы рабіць не можам. Асобная размова пра тых, хто гандлюе каля рынку. Гэта асаблівы кантынгент, ён свядома ідзе на парушэнні, бо там працаваць нельга. Напэўна, тут могуць вырашыць праблему гарадскія ўлады або міліцыя.

**– З рыбай вы ўжо разабраліся (павільён гатовы), цяпер на чарзе малако? Калі бабулькі ўпарта прадаюць яго ў "паўтарачках".**

– У адміністрацыі няма рэсурсаў для пакарання такіх прадаўцоў. У нас ёсць адно права: пазбавіць месца. Што азначае ўзяць за локаць і вывесці, а гэта ўжо хуліганства. Абсурд, натуральна. Ёсць лабараторыя, якая павінна кантраляваць якасць прадуктаў на рынку. Там патрэбных мер не прымаюць.

**– Напэўна, ёсць нейкія планы па добраўпарадкаванні тэрыторыі?**

– Хутчэй, не планы, а ідэя ўпрыгожвання. Магчымы варыянт гандлёвых кіёскаў замест бетоннай агароджы вакол рынку. Поўным праектаваннем займаецца ЗАТ "Будпраект". Потым, магчыма, будзем будаваць яшчэ адзін павільён пад рыбу. Трэба разабрацца з малаком. Ёсць ідэі наконт крытага памяшкання. Тады, лічу, гандаль гэтым прадуктам будзе на прафесійным узроўні.

**– Вядома, што пару год таму на рынку вíравала яшчэ і даволі бурнае начное жыццё.**

– Мы накіравалі сітуацыю ў больш ці менш патрэбнае рэчышча. Становішча кантралююць нашы супрацоўнікі, дапамагае міліцыя. Магу адназначна сказаць, што бамжоў там ужо няма. А ўвогуле, вядома, увайсці на тэрыторыю няцяжка.

**– Ад чаго залежыць сума аплаты за месца?**

– Ад выдаткаў бюджэту рынку. Калі яны павышаюцца, расце плата. Нам таксама трэба выдаць зарплату, заплаціць за электрычнасць, ваду, вываз смецця і г. д. У нас хапае праблемаў, мы імкнемся іх вырашаць, але вы самі разумееце, усіх не задаволіш.

Рынак афіцыйна працуе да 17-00, але на практыцы работа заканчваецца дзесьці каля трох гадзін дня. Узімку узнікаюць праблемы са снегам (трэба пачысціць тэрыторыю для нармальнай работы), улетку вялікі наплыў садавіны і гародніны. Гандлююць як адзеннем, так і прадуктамі харчавання – рынак даўно з'яўляецца змешаным. Прадаўцы едуць сюды з усяго рэгіёна, і нават межаў краіны – Узбекістан, В'етнам. Так што работы дырэктару хопіць.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



Фота з архіва «РГ».

**Калі ў гараджанаў узнікаюць праблемы з нарыхтоўкамі, яны выязджаюць на палі. Летась з бульбай асаблівых праблемаў не было. Сёлета асаблівага бульбянага ўраджаю, мусіць, не будзе, таму варта чакаць павышэння цэнаў на беларускі «другі хлеб».**

### Курсы валют НБ РБ

| | 13 верасня | 20 верасня |
|---|---|---|
| Долар | 1466,00 руб. | 1466,00 руб. |
| Нямецкая марка | 683,48 руб. | 683,48 руб. |
| Літ | 366,40 руб. | 366,40 руб. |
| Расійскі рубель | 49,79 руб. | 49,79 руб. |
| Злоты | 344,54 руб. | 344,54 руб. |
| ЕЎРА | 1336,77 руб. | 1336,77 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1470 – 1490 руб. | 1470 – 1490 руб. |

### Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 12.09 | 19.09 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2400 | 2490 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 8200 | 7780 |
| Сасіскі, 1 кг | 3100 | 3100 |
| Селядзец, 1 кг | 1720 | 1720 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 410 | 400 |
| Цукар, 1 кг | 675 | 675 |
| Алей, 1 л | 1050 | 990 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 720 | 655 |
| Маянэз, 200 г | 260 | 270 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1600 | 1600 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | 550 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 550 | 550 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 450 | 400 |
| Капуста, 1 кг | 200 | 180 |
| Памідоры, 1 кг | 700 | 600 |
| Лімоны, 1 кг | 1650 | 1550 |
| Апельсіны, 1 кг | 1550 | 1490 |
| Кавуны, 1 кг | 300 | 300 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1200 | 1200 |
| Масла, 1 кг | 2400 | 2600 |
| Тварог, 1 кг | 800 | 1000 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1100 | 1000 |
| Бульба, 1 вядро | 2000 | 1800 |
| Морква, 1 кг | 450 | 400 |
| Брусніцы, малое вядро | 4500 | 5500 |
| Журавіны, малое вядро | | 4000 |
| Яблыкі, 1 кг | 200 | 200 |

## Рыбны павільён здадзены ў эксплуатацыю

**МАЛАДЗЕЧНА. Гандаль рыбай у кіёсках не надта задавальняе маладзечанцаў, а павільён з надпісам "Рыба", хаця знешне і выглядае зробленым, увесь час зачынены.**

Як расказаў дырэктар рынку **Аляксей Увараў**, павільён здадзены ў эксплуатацыю. Падведзеныя электрычнасць і вада. Не мае прэтэнзій цэнтр гігіены – самы строгі прыёмшчык.

А не працуе з прычыны адсутнасці прадаўцоў. Між тым, існуе прадпісанне: прыняць з тэрыторыі цяперашнія ларкі, дзе да гэтага дня прадаюць рыбу.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ БУДАЎНІЦТВА

## Парасяты пераедуць на Лібава-Роменскую

**МАЛАДЗЕЧНА. Яшчэ ўвесну пачалося будаўніцтва новай пляцоўкі рынку па вуліцы Лібава-Роменская. Мяркуецца, што галоўным прыярытэтам на новым месцы стане продаж парасят.**

Дырэктар харчовага рынку **Аляксей Увараў** тлумачыць гэта тым, што на асноўным рынку ўжо нестае месца. Аб'ект, калі нішто не зашкодзіць, мусяць здаць у кастрычніку.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ СУМНАЯ ТЭМА

## Каб сабраць блізкага ў апошні шлях, трэба пашчыраваць

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыццё чалавека мае асаблівасць аднойчы спыніцца назаўсёды. Каб перадаць эстафету новаму лёсу. Аднак грукат смерці ў дзверы жыцця звычайна абрушваецца нечакана. Як правіла, ніхто наперад не рыхтуе сабе труну, не набывае пахавальную прасціну, не браніруе месца на могілках.**

Сёння, каб сабраць блізкага ў апошні шлях, неабходна дабравата пашчыраваць. Фірмы, якая б узяла на сябе ўвесь працэс пахавання, у горадзе няма. Гэта пры тым, што вочы людзей у такія гадзіны затуманеныя горам.

Салоны рытуальных паслуг у абмен на немалую колькасць папяровых "зайцоў" прапануюць пахавальнае адзенне (каля 35 тысяч), абутак (каля 30 тысяч), кошычкі і вянкі (2,5-36 тысяч) на гэты чорны дзень. Помнік можна заказаць на суму ад 35 да 700 тысяч, труну скалаціць за 46-130 тысяч.

Аднак машыну да могілак трэба шукаць у іншым месцы, выкапаць дол – ізноў неабходна кагосьці прасіць.

Вядома, няшчасце зближае і хто-небудзь абавязкова адгукнецца, але колькі часу губляецца дарэмна, асабліва каштоўнага ў апошнія гадзіны развітання навекі з любімым чалавекам.

**Вольга КАСЯКОВА.**

# Палачаны чакаюць іншаземцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Недзе ў 70-я гады мінулага стагоддзя на балотах паміж мястэчкам Беразінскае і Заходняй Беразіной спынілі распрацоўку торфу. Тэрыторыю асвоіла Маладзечанская раённая арганізацыя ГА «Беларускае аб'яднанне паляўнічых і рыбаловаў» (БАПР).**

Як і належыць грамадскай арганізацыі, яна на самафінансаванні. Існуе на членскія ўзносы, даход ад продажу пуцёвак. Ёсць яшчэ і лесапаляўнічая гаспадарка (яна, прыкладам, узяла ў арэнду пушчу). Гэта дзяржаўная арганізацыя, яе ўтрымлівае бюджэт.

Раённая арганізацыя БАПР мае 6 паляўнічых дач і налічвае ў штаце 6 егераў і аднаго паляўніцтвазнаўцу. Але патэнцыяльных браканьераў расчарую: акрамя штатных, ёсць і добраахвотныя памочнікі, так што шанцы сустрэцца з інспектарам не такія ўжо і малыя.

Хаця на ўзбраенні ў тых аднаствolка выпуску невядома якога стагоддзя ды бартавы і легкавы УАЗікі. Спыніць парушальнікаў можа хіба толькі слова. А маюць нелегальныя паляўнічыя ўсё часцей аўтаматычную зброю.

### Памерзнуць з вудачкай

**ДАВЕДКА. Больш за 100 водных аб'ектаў Беларусі знаходзяцца ў адасобленым водакарыстанні. Гэта звесткі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы наваколля.**

**У адпаведнасці з Водным кодэксам, перадача вадаёмаў у бясплатнае і бестэрміновае адасобленае водакарыстанне ідзе з 1982 года. Гэта прыкметна палепшыла санітарны стан водных аб'ектаў, прыбярэжных палос і водаахоўных зон.**

**З 1 студзеня 1997 года, калі ўступіў у сілу закон аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету, суб'ектамі арэнды сталі каля 200 рыбных угоддзяў. Яны перадаюцца ў арэнду на тэрмін не менш чым пяць год, каб арандатары змаглі прыняць меры да папаўнення рыбных запасаў вадаёмаў. Мясцовыя органы ўлады могуць скасаваць дагавор арэнды ў выпадку нездавальняючага гаспадарання з боку арандатара.**

380 гектараў Палачанскіх вадаёмаў, што ўтварыліся на месцы былога торфбалота, і ўзяла ў арэнду Маладзечанская арганізацыя БАПР. Да таго ўжо год як яна мела адпаведную ліцэнзію, але стрымлівала афармленне неабходных дакументаў.

Былыя балоты, сапраўды, вартыя ўвагі. Плотка, лінь, акунь, шчупак, якіх тут «нямерана», узімку збіраюць да сотні мінскіх машын з аматарамі памерзнуць з вудачкай у руках.

Наогул жа, вадаёмы раёна хацелі раздаць па розных руках. На арэнду Палачанскіх, прыкладам, адзін час настойліва прэтэндаваў «РАМАС». Наўрад ці такое драбленне прывяло б у нашым, скажам так, не зусім падрыхтаваным грамадстве да станоўчых вынікаў.



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Старшы паляўніцтвазнаўца Уладзімір Саковіч і старшы егер Уладзімір Капцюг канфіскуюць незаконную прыладу для рыбнай лоўлі – сетку. Парушальнікі прыладзіліся было «ачышчаць» яе непасрэдна ля трасы - пад мастом.**

Пад Палачанамі пачыналі з «інжынерных хітрасцяў». Пусцілі невялікую рачулку Хоўхлаўку не напрамую (як меліяратары). У выніку падсілкавалі балота, утварыўся выдатны вадаём. Са сваімі пратокамі-вуліцамі, пойменнымі разлівамі. Узімку замораў рыбы няма. Нярэдка трапляюцца шчупакі да 10-15 кг, кілаграмовыя плоткі ды акуні.

Без браканьераў, натуральна, не абысціся. Сёлета толькі на «сеткавікоў» Палачанскіх вадаёмаў складзена больш за 30 пратаколаў. Адабрана больш за 60 сетак, пратаколы аб парушэннях накіравныя ў райвыканком.

Прамысловыя сеткі, як і адабраныя ў парушальнікаў, «біркуюцца». Рэалізацыя іх ідзе праз гандлёвую сетку.

У водных планах – абуладкаванне тэрыторыі, наладжванне прамысловай і аматарскай лоўлі рыбы. Калі будуць грошы, тут правядуць зарыбленне (запусцяць у вадаёмы таўсталобіка, белага амура).

### Работа – ахоўваць ад людзей

**ДАВЕДКА. Палачанская паляўнічая дача займае тэрыторыю ў 103 тысячы гектараў. 29 з іх займаюць лясныя тэрыторыі, 64 – палявыя, больш за тысячу прыходзіцца на водна-балотныя.**

На «уліку стаяць» 65 ласёў (адзін час іх наогул тут не было), 170 казуляў, 180 кабаноў, 18 аленяў, 980 зайцоў-русакоў, 180 зайцоў-белякоў, 1100 ліс, 70 куніц (ёсць спецыяльная методыка для зімовага маршрутнага ўліку, у тым ліку – на пляцоўках).



**Наўрад ці большыня чытачоў ведае, што на Маладзечаншчыне ёсць такія месцы. І замежныя турысты ў масава-арганізаваным парадку паехалі б сюды – дай толькі інфармацыю.**

Маюць свой інтарэс ля Палачанаў і паляўнічыя. Пакрысе абуладкоўваецца тэрыторыя – з'яўляюцца невялікія прычалы на пратоках, навесы для адпачынку паляўнічых і рыбакоў.

Будуць тут і вышкі назірання і адстрэлу капытных (на Захадзе толькі з іх і страляюць). Для жывёл засяваецца амаль 7 гектараў кармавых палёў, створана 28 падкормачных пляцовак. Ёсць і «натуральная» дапамога. Зааралі, прыкладам, у калгасе пасевы – звярам ды качкам добра. Яны ўсё дастануць, у іх ураджай не згніе.

Плён такая праца дае. Вярнуліся сюды бабры, трэці год ёсць выдры. Заўважу, што арганізацыя БАПР ліцэнзіі на адстрэл іх не выдаюць. Толькі на кабана і касулю. Ды і паляванне тут спартыўнае, але не прамысловае.

Гусь пералётная на тутэйшую ваду ідзе ахвотна. Увогуле, адстрэл пярнатых не абмежаваны. Дзкіх гусяў жа вырошчваць не трэба. Калі ёсць умовы, яна сама сюды ў цёплы сезон прылятае.

За 10 год няшчасных выпадкаў на паляванні не было. Пажараў сур"ёзных таксама мясцовыя не прыпомняць, хаця тарфянікі нават узімку дымяць. Этыку паляўнічага мясцовыя (іх болей) і сталічныя наведвальнікі шануюць.

– Паляўнічы, які сябе паважае, па птушцы, што сядзіць, не стрэліць, – гаворыць старшы егер **Уладзімір Капцюг**. – Тое ж тычыцца этыкі паводзінаў увогуле.

Старшы паляўніцтвазнаўца **Уладзімір Саковіч** раней працаваў у Вілейскім лясгасе. Ён таксама лічыць, што нармальны паляўнічы будзе ім у любых умовах, незалежна ад месца.

Працуюць паляўніцтвазнаўцы практычна на энтузіязме – па 50 тысяч атрымліваюць. А 4 кастрычніка, дарэчы, – Дзень абароны жывёл.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

# Кавалачак Галандыі

У галандцаў ёсць прымаўка: "Бог стварыў мора, а галандцы – зямлю". Ніжэй узроўню вады знаходзіцца значная частка тэрыторыі гэтай краіны. "Польдэры" – штучна адваявалі ў мора і асушаныя. І ў беларусаў ёсць чым ганарыцца – гэта Вілейска-Мінская водная сістэма.

Праекты па пераразмеркаванні рачной вады паміж марскімі басейнамі (тут: паміж Балтыйскім і Чорным марамі) можна пералічыць па пальцах. Вілейская вада пяццю помпавымі станцыямі падымаецца на 75 метраў да водападзелу ў раёне Радашковічаў, затым паступае ў сістэму мінскіх вадасховішчаў – Заслаўскага, Крыніцы, Драздоў – і ў раку Свіслач.

Для захавання стану наваколля пры перасячэнні канала з натуральнымі прыроднымі ватадокамі пабудавалі дамбы, вадаспускі, акведукі. Адзін з акведукаў можна бачыць з электрычкі ля Вязынкі.

Дзеля недапушчэння падтаплення ўчасткаў, якія знаходзяцца ніжэй узроўню вады на Заслаўскім і Вілейскім вадасховішчах, за дамбамі створаная сістэма польдэраў (як у Галандыі). Гэта актуальна, бо на выпарванне і фільтрацыю праз дамбы расходуецца 5% вады Вілейскага вадасховішча, скід праз плаціну ў Вілію складае 75%, забор у канал – 20%.

Наша сістэма забяспечвае эканоміку сталіцы тэхнічнай вадой, пры гэтым дазваляе эканоміць экалагічна чыстыя і якасныя падземныя воды.

Калі параўнаць эканамічны стан Вілейскага і Заслаўскага вадасховішчаў, то можна вызначыць, што прыазёрнасць Вілейскага вадасховішча большая. Гэта значыць, у ім часцей мяняецца вада. У залежнасці ад таго, колькі было ападкаў - 5-8 разоў на год. У той жа час, у некаторых залівах Мінскага мора, напрыклад, у Спартакаўскім ля прафілакторыя, водаабмен вельмі запаволены. У Заслаўскім - прыкладна 4 разы на год. Яшчэ Заслаўскі вадаём вытрымлівае нашмат большую антрапагенную нагрузку, бо з'яўляецца зонай адпачынку жыхароў сталіцы: дзесяткі тысяч людзей, сотні машын, тоны смецця.

Прыродзе можна толькі паспачуваць. Па меркаванні некаторых гідролагаў БДУ, ложа Заслаўскага вадасховішча перад затапленнем не было як след падрыхтаванае: пад вадой засталіся дрэвы, кустоўе, торф. Усё гэта гніе гадамі.

Калі рэкрэацыйны (аздараўленчы) патэнцыял Мінскага мора выкарыстоўваецца на ўсю моц, то Вілейскае вадасховішча "абжытае", у гэтым сэнсе, яшчэ недастаткова, хаця мае нават большыя магчымасці. А стварэнне паўнавартаснай інфрастуктуры адпачынку дазволіць напоўніць і мясцовы бюджэт, што не будзе лішнім. Толькі вось у пагоні за прыбыткам трэба зберагчы нашу прыроду – кавалачак беларускай Галандыі.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ МЕДЫЦЫНА

# Дыфтэрыя не развіталася з беларусамі і ў XXI стагоддзі

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета зарэгістраваныя 2 выпадкі захворвання на дыфтэрыю. У красавіку носьбіт інфекцыі выяўлены ў дзіцячай бальніцы, а ў маі дзейнасць таксіну адчуў на сабе вучань цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, што дзейнічае на базе садка №23. А ўсё з-за таго, што медсястра своечасова не прышчапіла дзіця.**

Стварыць бар'ер на шляху інфекцыі падуладна толькі антытаксіну. Вакцынацыя пачынаецца з 3 месяцаў жыцця. Робіцца комплексная прышчэпка ад дыфтэрыі, слупняку, коклюшу з інтэрвалам у 1 месяц, якая стварае першыя "умацаванні" ад наступстваў хваробы. Рэвакцынацыя ажыццяўляецца ў 1,5 года, потым у 6, 11, 16 год. І далей антытаксін "заступае ў каравул" кожныя 10 год.

Раней гэтая працэдура ажыццяўлялася раз на 5 год, аднак апошнія даследаванні паказалі, што такой неабходнасці сёння няма. Ды і фінансавыя магчымасці не дазваляюць такой "раскошы". Вакцыну закупляюць за мяжой.

Урач-эпідэміёлаг **Юрый Дземідовіч** акцэнтуе ўвагу на патрэбе сістэматычнага прышчэплівання насельніцтва. Таму што гэта адзіны дзейсны спосаб пазбегнуць хваробы, якая паражае гартань. Спрыяльным месцам атакі могуць быць для мікробаў нават адкрытыя раны, а таксін ужо робіць сваю справу, заражаючы жыццёва важныя органы.

**Вольга КАСЯКОВА.**

### Каментарый урача-эпідэміёлага РЦГіЭ Юрый ДЗЕМІДОВІЧА

Асноўная роля ў папярэджанні многіх інфекцый і ліквідацыі, прыкладам, такога грознага захворвання, як натуральная воспа, належыць прафілактычным прышчэпкам. Дзякуючы ім, на Маладзечаншчыне апошнія гады не рэгіструюцца поліяміэліт, адзёр, зведзеная да адзінкавых выпадкаў захворваемасць на коклюш. Пасля нядаўняга ўвядзення вакцынацыі ў гадавалым узросце супраць краснухі, а з мінулага года і рэвакцынацыі, адбываецца штогадовае зніжэнне захворваемасці на яе.

Летась зарэгістравана 52 выпадкі дыфтэрыі, у тым ліку, 4 – са смяротным зыходам (з іх 2 у Мінску сярод непрышчэпленых: эта звязанае з тым, што імунітэт пры правядзенні прышчэпак ствараецца не супраць мікроба, а супраць таксіна, што выдзяляецца ім, таму што ўводзіцца анатаксін. Такім чынам, узбуджальнік цыркулюе сярод насельніцтва, не выклікаючы захворвання ў прышчэпленых і рэгіструючыся толькі як бактэрыяносьбіцтва, якое выяўляецца пры абследаванні ў раёне штогод, а пры трапляннi ў арганізм непрышчэпленага выклікае цяжкае захворванне з магчымым смяротным зыходам або пажыццёвымі цяжкімі ўскладненнямі).

Што тычыцца згаданага выпадку ў дзіцячай бальніцы Маладзечна, то, дзякуючы таму, што ўсе з больш чым 60 кантактных былі таксама прышчэпленыя. Ніхто з іх не захварэў.

# ВІНШАВАНКІ

**Уладзіміру Міхайлавічу Станкевічу**
Следчы аддзел г. Маладзечна віншуе Вас з днём нараджэння!

Не жалуйтесь на то, что седина,
Давно не те уж стали кудри.
Была бы только жизнь полна
И голова как прежде, мудрой.
Иной и в тридцать лет старик
С потухшим взором и без искры.
У Вас, как раньше, глаз горит,
А шаг – размеренный и быстрый.
Желаем Вам еще сто лет
Не знать ни горестей, ни бед.

**Таццяне Зянько**! Желаю тебе синего неба, зеленого сада, цветущего поля, веселого взгляда, задорного смеха, упорства в ненастье, здоровья, любви и огромного счастья! *Валодзя.*

Віншую з днём нараджэння **Наталлю** і **Люду Чаховіч**! Жадаю шчасця, здароўя і ўсіх кветак да Вашых ног. *Міхаіл.*

Віншую **Ягора Дзыгуна** з 20-годдзем! Жадаю шчасця, здароўя, творчых поспехаў і здзяйснення ўсіх жаданняў!!! *Ірына.*

Віншуем з 20-годдзем **Ягора Дзыгуна**! Хай шчасціць табе ў жыцці, хай Бог бароніць цябе ад страт і хвароб. *Сахацкія.*

**Таццяну** і **Віталя Сухоцкіх** віншуем з уступленнем у шлюб! Жадаем шчасця, здароўя, дабрабыту. *Сям'я Гінтоўтаў.*

# ЗНАЁМСТВЫ

Лілія, 35/165/49, шчырая, абаяльная, надзейная, пазнаёміцца з мужчынам. 220100, Мінск, а/с 351.

Мяккі мужчына, 39 год, з кватэрай у Вілейцы, пазнаёміцца з надзейнай жанчынай. 220113, Мінск, а/с 20.

Адказны, вясковы мужык, 45/175/74, умелы і адукаваны, пазнаёміцца з вартай жанчынай, самаахвярнай, здольнай пакахаць. Маладзечна-6, п/п МС0604043, Анатоль.

Інвалід 2 гр., 32 гады, з жыллём, спакойны, без шк/зв., пазнаёміцца з дзяўчынай для стварэння сям'і. 222310, Маладзечна-7, МС0487030.

Мужчына 50/170/70 пазнаёміцца з жанчынай для стварэння сям'і. Жыллём забяспечаны. Маладзечна-6, п/п МС0367626.

■ ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Дасылайце цікавыя выпадкі з каляспартыўнага жыцця, сведкамі якіх вы былі апошнім часам.





У матчы дублёраў з брэсцкім "Дынама" **Аляксей Антановіч** павесяліў беразінскіх балельшчыкаў (матч, як звычайна, праходзіў у Беразінскім). Ішла 78-я хвіліна сустрэчы, госці праводзілі замену футбалістаў. Лёша скарыстаў момант і прыйшоў да броўкі поля папіць вадзічкі. Паўабаронца наталіў смагу, развярнуўся і са словамі: "Сашка, Саша, я тут!" пабег да варотаў саперніка. Бегён не дарэмна, бо паспеў падставіць нагу пад прастрэл **Багайчука** і забіў гол. Вось такая ў клуба ёсць "жывая" вада.

І яшчэ пра дублёраў
На той матч "Маладзечна" – "Дынама" (Мн) у Беразінскае прыехалі паглядзець футбалісты асноўнага складу «Маладзечна-2000». Як вядома, тады мінчане падкінулі **Рубацкаму** 9 штук.

На тварах гульцоў асновы на працягу гульні былі ўсмешкі. Цікава, напэўна было глядзець на разгром "братоў сваіх меншых".

На наступны дзень пасля фінальнага свістка іх твары зрабіліся сумныя. "Дынама" і тут было мацнейшае за "Маладзечна", вось толькі забіла менш за сваіх другіх нумароў. Смяяліся, напэўна, ужо "герої" дубля.

Спартыўныя выданні Мінска працягваюць здзіўляць. На гэты раз вызначыўся журналіст "Спортивной панорамы". **Саша** прыехаў у Маладзечна на гульню з брэсцкім "Дынама" і з усмешкай заявіў:

– Сёння "Маладзечна" парвуць.

Пайшла гульня, а гаспадароў не рвалі. Недзе пад канец першага тайма карэспандэнт пачаў пазяхаць, небарака, і зазначыў, што гульня ніякая. Не будзе пра што пісаць. Было шмат жоўтых картак, таму спартыўны аглядальнік вырашыў не пісаць – увогуле, усё ўкажуць у пратаколе.

А тут раптам **Турчыновіч** забіў гол. Аляксандр і ўвогуле засумаваў. Радасць з'явілася на твары толькі пасля фінальнага свістка – важданіна на полі скончылася.

Скончылася ўсё фарсам. У газеце выйшаў матэрыял з буйным і маляўнічым загалоўкам "Как Тартовский спор решил" (у пратаколе матча замест Турчыновіча гол чамусьці запісалі на **Тартоўскага**). Саша, на гульні можна ўвогуле не ездзіць, пратаколы у Мінск пасля матчаў прывозяць.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

**Сведкам падзей з голам Турчыновіча стаў і Сяргей ГАЙКОВІЧ. Вось ягоны каментарый:**

– Пасля матча "Маладзечна-2000" – "Дынама" (Брэст) журналісты, як заўсёды, атрымалі пратакол гульні, і шчаслівыя гэтым фактам раз'ехаліся хто па дамах, а хто мусіў і ў сваю рэдакцыю завітаць. Аўтара гэтых радкоў напярэдадні матча папярэдзіў брэсцкі калега, што патэлефануе па яго заканчэнні. Не пытанне.

Патэлефанаваў. Што табе? Склад? Калі ласка. Аўтар гола? Пачакай, пачакай, тут запісаны Тартоўскі. Цікава-цікава. Здаецца, сам бачыў радаснага Турчыновіча ды пасля сустрэчы абмяркоўваў яго стыль. Маларухомы, але забіўны.

Пакінуў брастаўчаніна на нейкі час у самоце, тэлефаную на сотавы Людасу Румбуцісу.

– Хто на вашу думку, сёння гол забіў?

– Як хто? "Турча".

– У пратаколе запісаны Тартоўскі.

– Турчыновіч забіў!!! Зараз патэлефаную суддзям, няхай выпраўляюць пратакол.

Завяршылася, як сказаў ужо Мікалай Хадасевіч, непрафесійнасцю журналіста.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

ПРАВІЛЬНЫ АДКАЗ на мінулае пытанне далі **маладзечанкі Лена Пятрова і Ніна Сахацкая**, таксама **Люда Ляшчэвіч з Ашмянаў**: таямнічыя 3, 4 ці 5 – дзеці. Альбо ведалі нашыя чытачкі адказ, альбо спрацавала жаночая інтуіцыя, але запрашэнні ў кіно яны выйгралі.

Для нашай чытачкі з Ашмянаў білет на дзве асобы будзе захоўвацца ў рэдакцыі да канца года. Так што скарыстаць запрашэнне яна зможа ў любы дзень, калі прыедзе (у суботу і нядзелю, праўда, рэдакцыя не працуе).

НАСТУПНАЕ ЗАДАННЕ. Ці ведаеце вы, як звалі самага вядомага вытворцу паперы ў Англіі? Толькі не спяшайцеся заяўляць, што не ведаеце.

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (па сераду ўключна) і прыходзьце па запрашальны білет на 2 асобы на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры «Радзіма».

**Лявон ІНЕТНЫ.**

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

Ідзе экзамен. Выкладчык тлумачыць свае патрабаванні.

– Пытанне на «пяць»: хто аўтар падручніка?

– Пытанне на «чатыры»: якога колеру падручнік?

– Пытанне на «тры»: што, уласна, здаем?

У апошнім радзе падымаецца студэнт:

– Пайшлі, хлопцы, халява не прайшла.

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Незапатрабаванае

Гісторыя кароткая, бо яна – у тон сённяшняму анекдоту. Але выпадак рэальны. Калісьці выкладчык Белдзяржуніверсітэта расказваў пра свайго знаёмага прафесара. Здаецца, з МДУ.

Ягоная кніга (падручнік для студэнтаў універсітэтаў у двух тамах) за 16 год вытрымала чатыры выданні пры тыражы ў 20 тысяч экземпляраў. У томе №2 недзе на 175 ці 250 старонцы была зноска дробным шрыфтам:

– Студэнт, які дачытае падручнік да гэтага месца, можа атрымаць у аўтара 25 рублёў (зарплата інжынера і настаўніка ў тыя часы, нагадаю, не перавышала 100-110 рублёў – **аўт.**).

Вы ўжо разумееце, што за ўвесь час па грошы ніхто не прыйшоў.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

## Рэгіён грыбны



**МАЛАДЗЕЧНА. Гадавалы Ваня Пачкоўскі актыўна дапамагаў старэйшым збіраць грыбы. У выніку, як сцвярджае ягоны бацька Уладзімір, яны і адшукалі гэты 2-кілаграмовы баравік. Растуць такія на Мядзельшчыне.**

Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Заліўное з баравікоў

**500 г свежых баравікоў, 2 лыжкі жэлаціну, 1 яйка, 1 лыжка гарчыцы, 2 лыжкі алею, соль, цукар, воцат на смак.**

Баравікі зварыць у 1 літры вады, а затым дробна пасячы вострым цяжкім нажом. Жэлацін намачыць у шклянцы халоднай вады. Калі набухне, выліць у гарачы грыбны адвар і грэць на малым агні, каб цалкам распусціўся (не кіпяціць). Баравікі порцыямі раскласці па формачках, заліць і паставіць у халадзільнік.

Для соусу расцерці дабяла жаўток, гарчыцу з алеем, цукрам, воцатам і соллю.

Заліўное падаем са свежай гароднінай, а соус – асобна.

## Мядовік

**1 шклянка мёду, 1 шклянка цукру, 3 яйкі, 50 г алею, 2 шклянкі мукі, 1 шклянка малака, сода.**

Усе прадукты, акрамя малака, змяшаць і, дадаючы малако тонкім струменьчыкам, старанна расцерці. У апошнюю чаргу дадаць чвэрць маленькай лыжачкі соды. У мядовік можна дадаць крыху разынак або здробненых арэхаў. Падрыхтаваную масу выліць у форму і выпякаць у духоўцы.

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон 38**

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)





## ЯПОНСКАЯ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.

Поле складаецца з 25 клетачак па гарызанталях (рады) і 25 клетачак па вертыкалях (стаўбцы). Лічбы ўказваюць на колькасць зафарбаваных клетачак у радзе ці стаўбцы. Калі, напрыклад, гэта лічба 5, то трэба зафарбаваць 5 клетачак запар. Калі гэта 2+1+1, то трэба зафарбаваць дзве, адну і адну клетачкі, але пры гэтым паміж імі павінен быць разрыў у адну ці болей клетачак.

Падказка: пачынаць выкрэсліваць клетачкі трэба з радоў ці стаўбцоў з найвялікшай лічбай.



**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў №37**

**Па гарызанталях:** 4. Асетр. 6. Абабак. 8. Прызёр. 9. Вадаспуск. 13. Круг. 16. Сіла. 18. Рэпліка. 20. Краты. 21. Вушак. 22. Кольт. 23. Радэо. 24. Атара. 26. Лекар. 27. Сібірак. 28. Твен. 29. Скат. 33. Тэрмастат. 36. Слойка. 37. Трапар. 38. Аклад.

**Па вертыкалях:** 1. Асіна. 2. Строп. 3. Абібок. 5. Сёмуха. 7. Клан. 8. Пост. 10. Столь. 11. Музыкавед. 12. Сімволіка. 14. Дэльфін. 15. Акравак. 17. Араты. 19. Парад. 25. Бірка. 28. Таполя. 30. Трапак. 31. Тэма. 32. Такт. 34. Марка. 35. Салат.

## Гараскоп 24 – 30 верасня



**Авен**
(21.03–20.04)

Набярыцеся цярплівасці, таму што ў гэты перыяд вас будуць раздражняць усе (без усялякіх на тое падстаў!). Вам захочацца збегчы на край свету, далей ад людзей. Няпростыя ўзаемныя стасункі з партнёрам па шлюбе замест таго, каб паспрабаваць наладзіць, вы будзеце ў стане давесці да апагею. Агрэсіўная энергетыка можа дапамагчы толькі спартсменам.



**Цялец**
(21.04–21.05)

25-га захочацца любіць і радавацца, пацягне да забаў і святаў, аднак варта задумацца, ці ў правільным напрамку адбываецца пошук гэтых "радасцяў". 26–28 верасня звярніце ўвагу на здароўе, ваш арганізм будзе мець патрэбу ў клопаце. А 29-га могуць здарыцца перабоі ў эканамічнай дзейнасці.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Сямейнае жыццё напоўніцца ўтульнасцю і ўзаемнай пяшчотай, многае гарманізуецца, стасункі наладзяцца самі сабой. Але з 29-га пачнецца перыяд некаторага душэўнага разладу. Вы на парозе маштабных пераменаў.



**Рак**
(22.06–23.07)

З 25 верасня істотна ўзрасце камунікабельнасць, у выніку чаго вы будзеце лёгка, хутка і гарманічна дасягаць любых пастаўленых мэтаў. Адкрываецца сезон клопату пра сваю знешнасць і фізічны стан, а з 29-га вы адчуеце недвухсэнсоўны заклік да сексуальнага партнёрства. Магчымы раман.



**Леў**
(24.07–23.08)

З 25 верасня – перыяд актыўнага садзеяння збоку ўсім вашым гаспадарчым і эканамічным справам, 26-га творчая энергія будзе біць ключом, вынікам чаго з'явяцца нечаканыя прыемныя змяненні. Вы будзеце адчуваць сябе настолькі добра, што спакойныя 29–30 верасня могуць вас нават засмуціць.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Вы будзеце незвычайна прыемныя ў зносінах, што трэба неадкладна скарыстаць для ўмацавання стасункаў з навакольнымі. Але з іншага боку, 26 верасня усе прафесійныя клопаты адыдуць на іншы план, і вы будзеце вымушаныя займацца выключна сям'ёй і роднымі. Магчымая паездка, звязаная з гэтым.



**Шалі**
(24.09–23.10)

У гэты перыяд многае, што тычыцца вашага асабістага жыцця і інтымных стасункаў будзе афарбавана новымі, невядомымі дагэтуль тонамі. Магчыма, некаторыя з вас закахаюцца і зразумеюць, што ўсе ранейшыя стасункі – толькі сурагат сапраўднага пачуцця. Будзьце вельмі асцярожныя каля 29 верасня, магчымая часовая ізаляцыя!



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Вы будзеце вельмі добра працаваць у камандзе. Усе вашыя ідэі, якія не знаходзілі падтрымкі ў навакольных, будуць прынятыя "на ура". І з 26 верасня будуць лёгка дасягацца эканамічныя і фінансавыя мэты. Каля 29-га вы адчуеце вакол сябе напружанне, але не бойцеся рызыкаваць, зоркі на вашым баку.



**Стралец**
(23.11–21.12)

З 26-га чысла ўсе знешнія справы пойдуць нашмат раўней і больш паспяхова, чым раней. Узрасце асабістая энергетыка да такой ступені, што каля 29 верасня вы можаце лёгка пасварыцца з партнёрамі, якія проста не ў стане будуць вытрымаць напор вашага энтузіязму. Магчыма, вы возьмеце ўдзел у экстравагантнай вечарынцы.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Менавіта ў гэты перыяд канчаткова вызначыцеся, у якім накірунку вам трэба развівацца далей. З 26 верасня пачнецца праграма ўнутранага росту, чаму ў немалой ступені будзе садзейнічаць выдатная фізічная форма і спакойна-філасофскі стан душы. Час прадпрымаць рашучыя дзеянні – 29-30 верасня.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

З 25 верасня ў працэс пераўтварэнняў вашага жыцця будзе прыўнесены цудоўны водар спакою, раўнавагі і рамантызму. Будзе нейтралізаваная любая трывога пра будучае. Вы атрымаеце асалоду ад пачуцця свабоды. Вам захочацца працаваць і адпачываць толькі з тымі, у каго вы закаханыя ў дадзены момант. І галоўнае, гэта магчыма!



**Рыбы**
(20.02–20.03)

У гэты перыяд вы зможаце знаходзіць агульную мову нават з самымі ўпартымі суразмоўцамі. 26-га вы нечакана атрымаеце шэраг прапаноў, якія маюць на ўвазе ваш асабісты ўдзел у некаторых праектах. А з 29-га пачне супакойвацца "бура ў шклянцы", што панавала ў вашым доме.



## 90 ГОД ТАМУ ПРА НАШ КРАЙ У "НАШАЙ НІВЕ"

### У школе

**Жарт**

Вучыцель. Калі адзін гаспадар выйдзе у трэцяй гадзіне з дому і будзе ісьці да горада дзьве гадзіны, а другі выйдзе а чацьвертай і будзе ісьці толькі гадзіну, то дзе яны сустрэнуцца а пятай?

Вучанік: У карчме, пан вучыцель

**Наша ніва, 1911, 11 Аўгуста.**



## ЛІСТАВАННЕ

**Наш чытач з Дэнвера (ЗША, штат Каларада) Віктар Русакевіч паходзіць з Маладзечна. У ЗША пераехаў параўнальна нядаўна. Ён піша, што пра жыццё роднага і навакольных гарадоў даведваецца з Internet-версіі "Рэгіянальнай газеты". Аглядавы матэрыял Дзмітрыя Кісялёва (Internet-рэсурс "Собкор.ru", зроблены, у сваю чаргу, па матэрыялах іншага рэсурса – "Прэсцэнтр. Ru") ён прапануе спецыяльна для чытачоў "РГ".**

## Законапаслухмяная краіна

Вядома, што ЗША з'яўляюцца лідэрам па колькасці састарэлых і недарэчных па змесце законаў. Агляд "Законапаслухмяная краіна" – падборка даволі цікавая і не пазбаўленая гумару, але шэраг палажэнняў мае сэнс пракаменціраваць.

Так, аўтар адзначае, што, натуральна, ніхто гэтыя законы не адмяняў, але і на практыцы, праўда, іх ніхто не прымяняе. Праўда, калі нехта ў судзе пабудуе сваю абарону або абвінавачванне на гэтых законах, то суд, зразумела, будзе вымушаны да іх звярнуцца. Што рабіць... Прынялі – трэба выконваць.

А вось гэта не зусім так. Калі б гэтыя законы сапраўды даводзілася б выконваць, то вялізная колькасць прыватных асоб узбагацілася б на фактах парушэння такіх законаў, а краіна была б спустошаная. Аднак, як мы ведаем, гэтага не адбываецца. Так, сапраўды, законы гэтыя не адмененыя, але іх практычнае дзеянне цалкамануляванае больш познімі заканадаўчымі актамі. Менавіта таму іх дзеянне юрыдычна спыненае без прымянення працэдуры афіцыйнай адмены.

**Працяг будзе.**

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227, выдадзенае 4.09.2001 г.
Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж 8140 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
№38 (335) 21.09.2001. Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 20.09.2001

Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.
E-mail: region_news@irex.minsk.by
http://regionnews.promedia.minsk.by

ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ
Маладзечна: Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. 69667, 53841.
Вілейка: вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». Тэл. 53935, 55284.
Смаргонь: вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». Тэл. 33077, 34353.

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»